ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б



## УЗМАЦНІМ АБАРОНАЗДОЛЬНАСЬЦЬ КРАІНЫ

ВЕРАСЕНЬ

№ 8

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1 9 3 2

Літправўка *Н. Бокая*
Корэктура *У. Ляўданскі, А. Тумiловiч*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў друкарню 29.IX—32 г.
Падпісана да друку 5/X—32 г.

## ЗЬМЕСТ



*(Працяг зьместу на 3-й стар. вокладкі)*




## ПЛЯН ДАКЛАДУ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

1. Чарговы прызыў у рады рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, арміі рабочай, колгаснай і працоўнай моладзі, кампанія перавучоту членаў АСО, агляд работы АСО, пачатак вайсковага навучальнага году адбываецца ва ўмовах, калі мы маем гіганцкія посьпехі на фронце социялістычнага будаўніцтва СССР, пры ўсё абвастраючымся сусьветным капіталістычным крызісе і росьце ваеннай небясьпекі.

2. Эканамічны крызіс, які ахапіў капіталістычныя краіны прадаўжае з найвялікшай сілай паглыбляцца і ўсё больш і больш абвастрае супярэчнасьці капіталізму. Тухнуць домны і мартэны, закрываюцца фабрыкі і заводы, расьце беспрацоўе і зьбядненьне працоўных, скарачаецца заработ-

ная плата, ліквідуецца дапамога беспрацоўным, растуць падаткі, сялянства разараецца гіганцкімі тэмпамі, расьце фашысцкі тэрор супроць працоўных.

Буржуазія шукае выхаду з сусьветнага крызісу, узмацняе эксплёатацыю працоўных, перакладае ўвесь цяжар крызісу на плечы рабочай клясы.

Пад прыкрыцьцём усякіх конфэрэнцый па разбраеньні ва ўсім капіталістычным сьвеце ідзе шалёны рост узбраеньняў. Капіталісты спрабуюць знайсьці выхад з крызісу ў падрыхтоўцы новых імпэрыялістычных войнаў і інтэрвэнцыі супроць савецкай краіны. Грандыёзныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне выклікаюць шалёнае імкненьне капіталістаў зьнішчыць вайной і інтэрвэнцыяй краіну пролетарскай дыктатуры, краіну перамагаючага соцыялізму.

3. Дасягнутыя на фронце соцыялістычнага будаўніцтва посьпехі і перамога соцыялізму ў нашай краіне маюць выключнае і вялізарнае міжнароднае значэньне.

«Міжнароднае значэньне гэтага



ДЛЯ ЗАЎВАГ

факту заключаецца ў тым, што рабочыя любой краіны, што працоўныя любой дзяржавы маюць магчымасьць параўняць вынікі панаваньня буржуазіі ў капіталістычных дзяржавах з вынікамі, з першымі яшчэ вынікамі панаваньня рабочай клясы ў краіне пролетарскай дыктатуры... Гэта параўнаньне дае магчымасьць бяз хістаньняў адказаць на пытаньне аб тым, за кім будучае, за пролетарыятам і яго ўладай, ці за буржуазіяй і яе панаваньнем. Ясна, што з міжнароднага пункту гледжаньня наш посьпех, пераможны посьпех будаўніцтва соцыялізму ўвасоблены ў посьпех ажыцьцяўленьня першай пяцігодкі і цяпер у першых намётках другой пяцігодкі, для рабочых і працоўных усіх краін гаворыць аб тым, што будучае не за панаваньнем буржуазіі, а за дыктатурай пролетарыяту, што факты кажуць супроць капіталізму на карысьць соцыялізму» (М о л а т а ў).

4. Будуючы пераможна соцыялізм, мы павінны даўсёды памятаць аб вайне і інтэрвэнцыі, якая рыхтуецца супроць нас. Занятыя сваёй

мірнай соцыялістычнай працай, мы павінны яшчэ больш узьняць сваю клясавую пільнасьць, сваю бальшавіцкую бояпадрыхтаванасьць.

Таксама цьвёрда і няўхільна, як і заўсёды, мы будзем і надалей весьці політыку міру.

«Але політыка міру не азначае адмаўленьня ад абароны. Наадварот, краіна саветаў нікому не дазволіць уварвацца на сваю тэрыторыю, зьнішчыць сацыялістычныя прадпрыемствы, таптаць колгасныя палі. Няхай гэтаму служыць пастаянна ўзмацняючаяся магутнасьць узброенай апоры пролетарскай дзяржавы — Чырвонай арміі. Акружаная клопатамі і ўвагай працоўных, клясава зьлітаваная, Чырвоная армія ахоўвае працу і спакой Савецкага саюзу» (Барашылаў).

5. Барацьба Комінтэрну і кіруемых ім шырокіх мас рэволюцыйнага пролетарыяту і працоўных за рэволюцыйны выхад з крызісу (героічная барацьба кітайскай чырвонай арміі, хваляваньні ў японскай арміі, новае ў міжнародным рабочым руху—магутная стачачная хваля ў Польшчы, Чэха-Славакіі,

Бэльгіі і т. д., якая падводзіць шырокія рабочыя масы да рэволюцыйных баёў; рост адзінага антыфашысцкага фронту ў Германіі, хуткае насьпяваньне рэволюцыйнага крызісу ў Польшчы).

6. Прызыў, як асабліва важная політычная кампанія—павінен праходзіць пад знакам найшырэйшай мобілізацыі працоўных СССР на баявое выкананьне ўсіх гаспадарча-політычных мерапрыемстваў партыі і савецкай улады, якія ўзмацняюць абароназдольнасьць нашай краіны.

7. Чырвоная армія—зброя дыктатуры пролетарыяту — пабудавана зусім інакш, чым капіталістычныя арміі і па сваёй клясавай прыродзе выражае **саюз рабочай клясы з працоўнымі масамі сялянства.** Чырвоная армія ахоўвае вялікую будоўлю соцыялізму ў СССР і тым самым змагаецца за перамогу сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

8. Чырвоная армія — клясавая армія. З усіх задач комплектаваньня чырвонай арміі, цэнтральнай найважнейшай задачай зьяўляецца клясавы адбор папаў-

неньня, які павінен выключыць усякую магчымасьць пранікненьня ў рады РСЧА клясававарожых элемэнтаў. Клясавы адбор—справа ўсіх працоўных.

9. Чырвоная армія, моцна згуртаваная вакол сваёй бальшавіцкай партыі і Савецкага ўраду, стаіць пільна на варце савецкіх граніц.

Гэты год Чырвоная армія правяла ў напружанай рабоце, у барацьбе за дысцыпліну, за добрае вывучэньне і аўладаньне сучаснай баявой тэхнікай, даўшы лепшыя ўзоры опэрацыйна-тактычнай і стралковай падрыхтоўкі байца і камандзіра. На аснове дасягнутых посьпехаў Чырвоная армія няўхільна паднімае сваю баявую палітычную і тэхнічную падрыхтоўку. Вядучы рашучую барацьбу з усімі недахопамі, не супакойваючыся на сваіх дасягненьнях, Чырвоная армія з дня ў дзень узьнімае сваю баявую моц.

10. Надыходзячая ваенна - палітычная кампанія—провады прызыўнікоў у Чырвоную армію, перавучот Асоавіяхіму, агляд нізавых ячэек гэтай організацыі, пачатак вайскова-навучальнага году — па-

вінны забясьпечыць далейшы рост абароназдольнасьці краіны і даць у рады Чырвонай арміі перадавога рабочага і колгасьніка, узмацніць работу абаронных арганізацый, забясьпечыць падрыхтоўку кваліфікаваных рэзэрваў для Чырвонай арміі.

У правядзеньні гэтых кампаній павінны прыняць удзел усе грамадзкія організацыі, усе працоўныя Савецкай краіны.

«Барацьба за мір без рэвалюцыйнай барацьбы, ёсьць пустая і ілжывая фраза. Адзіны шлях да пазбаўленьня ад жудасьцяй вайны заключаецца ў рэвалюцыйнай барацьбе за соцыялізм» (Ленін).

Чарговы прызыў моладзі нараджэньня 1910 г. у рабоча-сялянскую Чырвоную армію і чарговыя вайскова-політычныя кампаніі праходзяць у гэтым годзе ва ўмовах складанай і адказнай міжнароднай абстаноўкі, ва ўмовах далейшага абвастрэньня супярэчнасьцяй паміж соцыялізмам і капіталізмам на аснове новых посьпехаў і росту соцыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім саюзе і далейшага паглыб-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

леньня і абвастрэньня экономічнага крызісу ў капіталістычных краінах.

«Ніколі яшчэ за 14 год, якія прайшлі пасьля сканчэньня сусьветнай вайны, небясьпека яшчэ большай сусьветнай бойні ня была так вяліка, як у гэтым месяцы. Капіталізм патрасён сусьветным экономічным крызісам у сваіх самых сільных позыцыях, робіць шалёныя спробы знайсьці пры дапамозе ўнутранай і зьнешняй вайны выхад з крызісу. Унутраная вайна—гэта грамадзянская вайна супроць пролетарыяту: капіталістычнае наступленьне на заработную плату, скарачэньне дапамогі, зьніжэньне соцыяльных выдаткаў, прыдушэньне забастовак, клясавая юстыцыя, фашысцкі тэрор.

Зьнешняя вайна—гэта імпэрыялістычная вайна супроць Кітаю—прыдушэньне прыгнечаных народаў, якія змагаюцца за сваю нацыянальную свабоду, гэта перш за ўсё ваенныя провокацыі супроць СССР, гэта непасрэдная падрыхтоўка новай імпэрыялістычнай вайны» (З адозвы 8 компартыі да 1 жніўня 1932 г.).

Гэтая міжнародная абстаноўка

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

патрабуе ад усіх працоўных Савецкага саюзу, ад кожнага прызыўніка павышэньня пільнасьці ў адносінах да замыслаў імпэрыялістаў і ўзмацненьня тэмпаў работы па завяршэньні пяцігодкі ў 4 гады, па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, па ўмацаваньні абароназдольнасьці нашай краіны і павышэньні баявой магутнасьці рабоча-сялянскай Чырвонай арміі. Патрабуе яшчэ большага згуртаваньня рабочых, колгасьнікаў і ўсіх працоўных вакол нашай ленінскай партыі, якая ўмела кіруе будаўніцтвам соцыялізму і ўзмацненьнем абароназдольнасьці нашай краіны.

## У капіталістычных краінах прадаўжаецца паглыбленьне экономічнага крызісу

У чэрвені-ліпені 1932 г. споўнілася тры гады, як капіталістычныя краіны душыць экономічны крызіс, нябывалы ў гісторыі па сіле глыбіні і размаху, які ахапіў хоць і нераўнамерна ўсе краіны і ўсе галіны гаспадаркі (прамысловасьць, сельская гаспадарка, фінансы). За гэты час крызіс выклікаў такія вя-

лікія разбурэньні, якія можна параўнаць толькі з разбурэньнем сусьветнай вайны 1914—18 гг.

Паказальнікі гаспадарчага жыцьця капіталістычных краін за шэсьць месяцаў 1932 г. сьведчаць аб тым, што крызіс хоць і не раўнамерна па паасобных краінах і галінах прамысловасьці, але бесьперапынна паглыбляецца. Вытворчасьць капіталістычных краін адкінута крызісам далёка за даваенны пэрыод на 25—40 гадоў назад і прадаўжае скарачацца ўсё шпарчэй і шпарчэй.

Аб далейшым паглыбленьні крызісу гаворыць таксама **сельскагаспадарчы крызіс.** У 1931 г. на складах ляжала каля 12 млн. тон хлеба, які не знаходзіў збыту. У гэтым годзе зноў рэзка скарачаецца пасеўная плошча, павялічваецца разрыў паміж агуловымі цэнамі на сельскагаспадарчыя продукты і прамысловыя тавары.

З асаблівай вастратой цяжар крызісу пераносіць рабочая кляса. Лік беспрацоўных у капіталістычных краінах павялічыўся да 50 млн. чал., пры чым у гэты лік ня ўключаны члены сем'яў беспрацоўных,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

беспрацоўныя коленіяльных і паўколеніяльных краін і часткова беспрацоўныя, гэта значыць рабочыя, якія працуюць ня поўны тыдзень, няпоўны рабочы дзень.

Буржуазія, вядзе бязьлітасную барацьбу за капіталістычны выхад з крызісу, усімі сіламі шукае мерапрыемстваў для зьніжэньня вытворчых выдаткаў і робіць гэта за кошт пролетарыяту, за кошт зьніжэньня заработнай платы, скарачэньня ўсіх відаў соцыяльнай дапамогі і г. д. У Амэрыцы з 1929 г. агульная сума заработнай платы скарацілася больш чым у два разы. Сярэдняя зарплата за тыдзень нямецкага прамысловага рабочага за тры гады зьніжана на 33,3 проц.

Падзеньне агуловых цэн на сельскагаспадарчыя продукты, высокія падаткі і арэндная плата разарылі вялікія масы сялянства.

### Крызіс у фашысцкай Польшчы

Асабліва цяжкае становішча ў Польшчы. Прамысловыя раёны фашысцкай Польшчы ўсё больш заміраюць. Лопнуў мэталюргічны концэрн «Гута пакою» ў Верхняй Сі-

лезіі, дзе было занята 15 тыс. рабочых і тысяча служачых. Закрыты амаль усе тэкстыльныя фабрыкі Лодзі, Беластоку, Бельску. Доменныя печы загружаны толькі на 13 проц. у параўнаньні з даваенным часам. Рад шахт, жалезных і цынкавых руднікоў кінуты на волю лёсу і затоплены вадой. Польскія фашысты з жахам глядзяць на набліжачуюся экономічную і політычную катастрофу.

Прадстаўнік компартыі Польшчы ў Комінтэрне т. Ленскі ў артыкуле «Чацьверты год крызісу ў Польшчы» падае наступныя матэрыялы:

«Глыбокі застой, ахапіўшы ўсё гаспадарчае жыцьцё Польшчы, штурхае ў багну галечы мільённыя працоўныя масы. Продукцыя сродкаў вытворчасьці складае толькі палову лічбаў 1928 г.

Выпрацоўка жалеза зьменшылася ў мінулым годзе на 40 проц., сталі—на 55 проц. Штомесячнае спажываньне жалеза на ўнутраным рынку менш 1 кг на душу насельніцтва—г. зн., многа менш усякай нормы краін з мінімальным узроўнем прамысловай продукцыі. Рад шахт жалезнай і цынкавай руды

ДЛЯ ЗАЎВАГ

заліты вадой. Доменная вытворчасьць за апошнія 4 гады апусьцілася да самага нізкага ўзроўню. Штомесячная продукцыя цынку зьнізілася з 14 да 8 тыс. тон.



Нават цяперашні нізкі ўзровень доменнай прамысловасьці ($^1/_5$ вытворчай здольнасьці) магчымы толькі дзякуючы пабудове стратэгічных шляхоў. Растуць запасы вугалю на складах. Польскі вугаль выцясьняецца англійскай конкурэнцыяй з іншакраінных рынкаў. Скарачаюцца таксама і ўсе іншыя галіны прамысловасьці. Выраб белага цукру за мінулы год зьменшыўся на 30 проц. Продаж цэмэнту зьнізіўся на 25 проц. Хімічныя фабрыкі працуюць выключна на вайну. З 13 існуючых у Польшчы фабрык супэрфосфату працуе толькі адна. Дрэваапрацоўчая прамысловасьць знаходзіцца ў стане амаль поўнага банкруцтва...

Усё больш абвастраецца аграрны крызіс. Паказальнік цэн сельгаспродуктаў (прымаючы 1928 г. за 100) зьнізіўся да 60 проц. Спэкуляцыйны рост цаны на жыта і пшаніцу за апошнія месяцы не адыграў значнай ролі, бо цэны на ўсе іншыя

продукты, асабліва на жывёлагадоўчыя, прадаўжалі зьніжацца. Прыціснутыя і разароныя падаткамі сялянскія масы распрадаюць за бясцэнак хатнюю жывёлу. Вельмі чысты выпадкі продажу коняй за $^{1}/_{2}$—1 доляр. Дыфіцытная запазычанасьць дробнай і сярэдняй сялянскай гаспадаркі расьце з кожным днём. Пазычковыя процанты дасягаюць 84 у год. Пры пазыках натурай яны даходзяць да 500, зьяўляючыся адным з найбольш паказальных фактараў разарэньня і экспропрыяцыі сялянскіх мас».

## Разруха і голад у Заходняй Беларусі

З асаблівай сілай крызіс адбіваецца на працоўных у Заходняй Беларусі. Палітыка нацыянальнага прыгнечаньня Заходняй Беларусі суправаджаецца барбарскай эксплёатацыяй працоўных мас. Бязьлітасна зьнішчаюцца прыродныя багацьці Заходняй Беларусі. Палітыка окупантаў прывяла працоўных Заходняй Беларусі да разарэньня і голаду. Нават фашысцкая прэса прымушана прызнаць, што **60 проц. насельніцтва Зах. Беларусі**

**галадае.** Голад у Заходня-беларускай і Заходня-украінскай вёсцы набыў такі пагражаючы характар, што экономічны комітэт рады міністраў прымушан быў спэцыяльна заняцца гэтай справай. У паведамленьні спэцыяльнага агенства «ІСКРА» мы чытаем: «Вясной бягучага году не хапіла насеньня на сяўбу ў гэтых ваяводзтвах (Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне). Зараз вычарпаны ўсе харчовыя запасы, так што насельніцтва ня мае чым харчавацца да новага ўраджаю».

Окупанская політыка выяўляецца і ў росьце беспрацоўя. У Заходняй Беларусі амаль 2/3 усіх рабочых зьяўляюцца беспрацоўнымі, а тыя, якія яшчэ працуюць, заняты на 2—3 дні на тыдзень.

Урад фашысцкай дыктатуры, рыхтуючыся да новай вайны супроць СССР, сьцягвае на «крэсы» новыя хмары асаднікаў, каб акупанцкім ботам прыдушыць нацыянальна - вызваленчую барацьбу рабочых і сялян, каб стварыць на прасторах Заходняй Беларусі цішыню могілак, так неабходную польскай імпэрыялістыч-

най буржуазіі для ажыцьцяўленьня ідэі «экспансіі на Ўсход».

445 000—блізка паўмільёна асаднікаў нагнаў фашысцкі ўрад з. Польшчы на Заходнюю Беларусь за 10 год окупацыі. Ужо сама гэта лічба гаворыць красамоўна аб плянах польскай буржуазіі.

## Посьпехі социялістычнага будаўніцтва ў СССР

У поўнай супроцьлегласьці капіталістычнаму сьвету ідзе будаўніцтва соцыялізму ў Савецкім саюзе, які ў гэтым годзе адзначае 15 год пераможнага свайго існаваньня, як адзінай у сьвеце дзяржавы пролетарскай дыктатуры.

У выніку першай пяцігодкі, якая выконваецца ў 4 гады, цьвёрда пастаўлена на ногі цяжкая прамысловасьць, якая зьяўляецца асновай завяршэньня рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Уступілі і ўступаюць у строй індустрыі сусьветныя па велічыні і значэньні заводы-гіганты, электростанцыі.

Лёзунг— «дагнаць і перагнаць» у тэхніка-экономічных адносінах пе-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

радавыя капіталістычныя краіны пасьпяхова ажыцьцяўляецца.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

На аснове агульнага росту соцыялістычнай прамысловасьці і ў першую чаргу буйнай індустрыі, дасягнуты рашаючыя перамогі ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі.

«Савецкі саюз з краіны дробнага і найдрабнейшага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства на базе колектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага прымяненьня машыннай тэхнікі» (XVII партконфэрэнцыя).

Завершана ў асноўным суцэльная колектывізацыя зерневых раёнаў і на яе аснове ліквідавана кулацтва як кляса ў гэтых раёнах. Звыш 60 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'яднаны ў колгасы.

З вялікімі перамогамі скончыў соцыялістычны сэктар вясеньняю сяўбу 1932 г. Саўгасы, колгасы і МТС павялічылі свае пасеўныя плошчы на 10 млн. **га.** 82 проц. усяго яравога кліну, 4/5 пасеўнай плошчы знаходзіцца ў руках саўгасаў і колгасаў. 53 проц. усёй колгаснай пасеўнай плошчы засеена машына-

трактарнымі станцыямі. Вынікі вясеньняй сяўбы бягучага году гавораць аб тым, што **Савецкі саюз канчаткова замацаваўся на социялістычным шляху.**

Найбольш важным рэзультатам социялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі зьяўляецца канчатковы падрыў карэньняў капіталізму ў вёсцы, які прадрашае поўную ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і поўнае зьнішчэньне кляс. «Завяршэньне фундаманту соцыялізму ў СССР азначае, што ленінскае пытаньне «хто каго» вырашана супроць капіталізму на карысьць соцыялізму поўнасьцю і беспаваротна і ў горадзе і ў вёсцы».

На аснове посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва няўхільна паляпшаецца матэрыяльнае становішча працоўных СССР. У той час, калі ў капіталістычных краінах катастрофічна зьніжаецца зарплата, расьце беспрацоўе, галеча, голад, выміраньне—у СССР беспрацоўе поўнасьцю ліквідавана. Лік рабочых і служачых з 11.590 тыс. чал. у 1928 г. узрос да 18.590 тыс. чал. у 1931 г.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Посьпехі соцыялізму ў СССР дасягнуты ў рэзультаце колёсальнага росту рэволюцыйнай актыўнасьці найшырэйшых мас рабочай клясы, у рэзультаце ленінскай палітыкі нашай партыі, яе рашучай барацьбы **як з «левым», так і з правым опортунізмам як галоўнай** небясьпекай і з прымірэнцтвам да іх, за генэральную лінію партыі.

## Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР

Магутны крок наперад зрабіла і наша Савецкая Беларусь па шляху індустрыялізацыі краіны. Некалькі фактаў: у 1922 — 1923 гг. агуловая продукцыя ўсёй прамысловасьці БССР складала 29 млн. руб. пры 9.705 рабочых, у 1932 г. плян прадугледжвае выпрацоўку продукцыі на 1.093.500 тыс. руб. пры 109.900 чалавек рабочых, служачых і інжынэрна-тэхнічных работнікаў. У Савецкай Беларусі пабудаваны і ўжо дзейнічаюць новыя фабрыкі і заводы першай пяцігодкі: Гомсельмаш, Бабруйскі і Гомельскі лесакомбінаты; запалкавыя фабрыкі: «Х Ак-

цябр» і «Пролетарская перамога»; швэйныя гіганты: «Сьцяг Індустрыялізацыі» ў Віцебску, «Акцябр» у Менску, ім. Дзяржынскага ў Бабруйску, імя Валадарскага ў Магілеве, вялікі скураны завод ім. Сталіна ў Магілеве, элеватар і маргарынавы завод у Гомелі, панчошна-трыкатажны комбінат у Віцебску, Асінаўская дзяржаўная электрастанцыя ім. Сталіна, фабрыка штучнага шоўку ў Магілеве, мясакомбінат і ільнокомбінат у Воршы, магутныя торфазаводы і інш. прадпрыемствы.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

### Колектывізацыя сельскай гаспадаркі

Няўхільнае ажыцьцяўленьне гэнэральнай лініі нашай партыі, барацьба з правым ухілам як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з «левымі» загібшчыкамі і прымірэнцтвам да іх на аснове высокіх тэмпаў індустрыялізацыі стварылі глебу для магутнага разьвіцьця колгасаў і саўгасаў. Многамільённыя масы беднякоў і серадняков рашуча сталі на шлях колектывізацыі. Па БССР мы маем 10 000 колгасаў.

## Рост соцыялістычнай культуры

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Разам, нага ў нагу, з індустрыялізацыяй ідзе рост соцыялістычнай культуры працоўных усіх нацыянальнасьцяй Савецкага саюзу. У БССР соцыялістычная культура, навука і мастацтва пышна квітнеюць. Адкрываюцца ўсё новыя і новыя школы, унівэрсытэты, вячэрнія курсы для рабочых, тэатры, клюбы і т. д. У СССР кожны трэці чалавек вучыцца, растуць кадры тэхнічнай навуковай інтэлігенцыі з людзей рабочай клясы. БССР — адна з першых рэспублік у Савецкім саюзе, якая к 1 мая г. г. стала ў асноўным рэспублікай суцэльнай пісьменнасьці.

Гэтых посьпехаў краіна дыктатуры пролетарыяту дабілася на аснове рашучага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі, на аснове бязьлітаснага выкрыцьця вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, на аснове выкрыцьця шовіністаў усіх нацыянальнасьцяй.

Пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і яе ЦК на чале з т. Сталіным рабочая кляса СССР падыходзіць

да выраштэньня задач другой пяцігодкі; да завяршэньня рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, да канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў, да пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Сусьветны экономічны крызіс з нябывалай вастратой выявіў супярэчнасьці паміж капіталізмам і соцыялізмам, даказаў перавагу соцыялістычнай сыстэмы перад сыстэмай капіталістычнай.

«Посьпехі 5-гадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і вёсцы, растучы крызіс і разлажэньне капіталізму, самі па сабе сталі ўжо небясьпекай для капіталізму» (IX пленум ІККІ).

## Небясьпека нападу імпэрыялістаў на Савецкі саюз

Экономічны крызіс у капіталістычных краінах прывёў да вялікага абвастрэньня ўсіх асноўных супярэчнасьцяй капіталізму, як унутраных, так і зьнешніх.,

Крызіс з асаблівай сілай завастрыў галоўную супярэчнасьць у капіталістычным сьвеце — бараць-

бу паміж Англіяй і Амэрыкай. Узмацняецца барацьба вакол вэрсальскай сыстэмы. Абвастраюцца супярэчнасьці паміж імпэрыялістычнымі краінамі, колёніямі і залежнымі краінамі. Нарастае рэволюцыйны ўздым барацьбы пролетарыяту супроць буржуазіі, нацыянальна-вызваленчы рух у колёніях і паўколёніях.

Здарэньні на Лазанскай і Жэнэўскай конфэрэнцыях з усёй яскравасьцю ўскрылі, наколькі туга зацягнут вузел супярэчнасьцяй імпэрыялізму і з якой вялізарнай хуткасьцю яны абвастраюцца, набліжаючы капіталістычны сьвет да новай вайны і перш за ўсё да вайны супроць Савецкага саюзу.

Сутнасьць усіх галосных «разбраенчаскіх» проектаў імпэрыялістаў (Тард'е, Гувэра, Болдуіна-Саймона) у Жэнэве зводзіцца да таго, што кожная імпэрыялістычная краіна імкнецца максымальна ўзброіцца і ў той-жа час максымальна разброіць свайго праціўніка.

Ва ўсіх імпэрыялістычных краінах працьвітае ваенная прамысловасьць, растуць ваенныя выдаткі. Агульная сума ваенных бюджэтаў

усіх краін сьвету ў 1930—1931 гг. складала 4.158 млн. доляраў (8.300 млн. руб.), пры чым у гэтыя цыфры не ўключэны буйныя сумы, асыгнуемыя ў сакрэтным парадку.

У 1932 г. тэмпы ўзбраеньня асабліва ўзмацніліся. Ва ўсіх краінах ідзе вялікі рост армій, рост узброенай сілы армій, шпаркая моторызацыя, рост авіяцыі, колёсальны рост ваенна-морскай сілы. Расьце вытворчасьць хімічных матэрый— хлёру, мыш'яку, брому, іпрыту, фосгену, хлёрпікрыну і т. д.

**Рост колькасьці аэропляпаў у арміях**

| | 1914 г. | 1918 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|
| САСШ . . . | 6 | 750 | 10000 |
| Францыі . . | 90 | 5000 | 7000 |
| Англіі . . . | 90 | 1500 | 5000 |

**Рост колькасьці танкаў у арміях**

| | 1928 г. | 1932 г. |
|---|---|---|
| САСШ . . . | 280 | 80000 |
| Францыі . . | 2700 | 5000 |
| Англіі . . . | 2000 | 5000 |



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Імпэрыялісты перш за ўсё рыхтуюцца да нападу на Савецкі саюз, імкнуцца адтэрмінаваць узрыў сваіх супярэчнасьцяй за кошт разгрому СССР і прыгнечаньня працоўных. Рост супярэчнасьцяй імпэрыялізму не аслабляе, а, наадварот, узмацняе небясьпеку інтэрвэнцыяністкай вайны супроць краіны соцыялізму:

«Чаму з такой зьвярынай ненавісьцю адносяцца капіталісты да СССР? Па-першае, социялістычная будоўля наносіць колёсальны ўдар гніючаму капіталізму, па-другое, сымпатыі да нас я боку працоўных усяго сьвету растуць, па-трэцяе, мы прадстаўляем сабой багаты і вялікі рынак» (С. Кіроў).

Аб непасрэднай пагрозе вайны супроць нашага Саюзу гавораць і здарэньні на Далёкім Усходзе, далейшае расшырэньне японскай інтэрвэнцыі ў Манчжурыі, шалёная ваенная падрыхтоўка.

Ліхаманкавыя тэмпы падрыхтоўкі імпэрыялістаў да новых войн і да ўзброенага нападу на СССР, суправаджаюцца нябачаным разгуламі жорсткага крывавага тэрору, накіраванага на прыдушэньне рас-

тучага рэвалюцыйнага руху працоўных мас капіталістычных краін і прыгнечаных народаў колёній. Капіталістычныя краіны, ахопленыя крызісам і растучымі рэвалюцыйнымі наступленьнямі пролетарскіх мас, з асаблівай трывогай клапоцяцца аб умацаваньні «тылу». Гэтай частцы падрыхтоўкі да вайны капіталістычныя ўрады надаюць ня менш важнае значэньне, чым самому ўзбраеньню.

### Фашысцкая Польшча рыхтуецца да вайны з СССР

Польскі фашызм праяўляе шалёную актыўнасьць у падрыхтоўцы антысавецкай вайны. Польскія імпэрыялісты марацьаб Польшчы ў граніцах 1872 году, г. зн. аб захопе Савецкай Украіны, Савецкай Беларусі, аб тым, каб адабраць фабрыкі і заводы і зьвярнуць капіталістам, а зямлю адабраць у сялян і зьвярнуць памешчыкам.

Каб атрымаць хаця-б некаторае ўяўленьне аб ліхаманкавых узбраеньнях Польшчы, дастаткова прывесьці вытрымкі з германскай газэты «Дэйтшэ Тагесцэйтунг». Павод-

ле падлікаў гэтай газэты з 1923 па 1932 г. у Польшчы пабудавана 33 новых ваенных заводы, 4 артылерыйскіх, 2 узрыўчатых матэрый, 2 ружэйных, 4 амуніцыйных, 3 авіяцыйных і 1 танкавы. Прыстасаваны да вырабу ваенных матэрыялаў яшчэ 100 заводаў. Кожны месяц ваенныя заводы выпушчаюць 20 млн. кулямётных і ружэйных патронаў, 60.000 артылерыйскіх знарадаў, 500 кулямётаў, 20 гармат, 40 ваенных самалётаў. У ваенны час гэта «выпрацоўка» можа быць павялічана ў 5 разоў. Кошт «продукцыі» польскіх ваенных заводаў дасягае 60 млн. доляраў у год. Але пілсудчыкі гэтым не абмяжоўваюцца. Яны яшчэ прывозяць вялізарную колькасьць ваеннага знараджэньня (танкі, зэнітныя гарматы і інш.) з Францыі, Чэха-Славакіі і Бэльгіі.

Выдаткі Польшчы на ўзбраеньне ўвесь час надзвычайна растуць. На 1931—32 г. з усяго дзяржаўнага бюджэту Польшчы, які раўняецца 2.886 млн. злотых, ваеннаму міністэрству выдзелена 836 млн. злотых, г. зн. ⅓ усяго бюджэту. Але гэтая лічба далёка ня поўная, бо па кожным міністэрстве выдзелена



ДЛЯ ЗАЎВАГ

рубрыка выдаткаў на чыста ваенныя мэты.



### Соцыял-фашызм на службе ў імпэрыялізма

Для таго, каб перашкодзіць перамозе рэволюцыйных сіл пролетарскай і нацыянальна-рэволюцыйнай вызваленчай барацьбы, мобілізуюцца ва ўсім капіталістычным сьвеце ўсе сілы фашызму і соцыял-фашызму.

З 1925 па 1930 г уключна, г. зн. за 6 год, ахвярамі белага тэрору палі 1.525.646 чалавек, а за мінулы 1931 г. лік ахвяр белага тэрору складае 1.116.549 чалавек.

Апошні фашысцкі пераварот у Германіі зьяўляецца найбольш яркім доказам таго, з якой шалёнасьцю буржуазія стараецца задушыць растучы рэволюцыйны рух з тым, каб больш бясьпечна можна было-б пачаць вайну і інтэрвэнцыю супроць СССР.

Ва ўсіх краінах соцыял-фашысты ня толькі дапамагаюць буржуазіі ў фінансавым і экономічным аграбленьні народных мас, ва ўтрыманьн-

ні і адхіленьні мас ад рэволюцыйнага выхаду з крызісу, у аграбленьні колёній і задушэньні нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў колёніяльных краінах, у справе ўзмоцненага росту ўзбраеньняў, але і робяць усё, каб разьвязаць буржуазіі рукі для інтэрвэнцыі супроць СССР, для капіталістычнага выхаду з крызісаў.

«У злачыннай рабоце па арганізацыі экономічнай блёкады і падрыхтоўкі ваеннай інтэрвэнцыі супроць СССР II Інтэрнацыянал і соцыял-дэмократычныя партыі непасрэдна прымаюць кіруючы ўдзел» (XI пленум ВККІ).

Разгромлены нашай партыяй трацкізм стаў перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі. Троцкі выконвае самую актыўную і асабліва патрэбную буржуазіі ролю інформатара ў паклёпніцкай кампаніі супроць дыктатуры пролетарыяту ў СССР. Ён зьяўляецца аўтарам самых агідных выдумак, якія падхапляюцца буржуазным соцыял-фашысцкім друкам, як сродак ідэолёгічнай падрыхтоўкі вайны супроць СССР.

**Працоўныя капіталістычных краін узмацняюць барацьбу супроць крывавых замыслаў імпэрыялістаў, за рэволюцыйны выхад з крызісу, за абарону СССР**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

1932 г. характарызуецца магутным стачачным рухам, які носіць глыбока-палітычны характар, і пераходзіць на паасобных вучастках стачачнага фронту ў контрнаступленьне пролетарыяту (стачачная барацьба ў Гішпаніі, майская забастоўка служачых пошты і тэлеграфу ў Грэцыі, забастоўкі ў Польшчы, Югаславіі, усеагульная забастоўка ў Вэнгрыі, забастоўка гарнякоў у Чэха-Славакіі і ПАЗШ, апошняя буйнейшая ўсеагульная забастоўка і барыкадныя баі ў Бельгіі, жорсткія стачачныя баі ў Швэцыі і т. д.).

Комуністычныя партыі і рэволюцыйныя профсаюзы выкрываюць ваенную падрыхтоўку імпэрыялістаў, організуюць выступленьні супроць перавозкі ваенных матэрыялаў, дэмонстрацыі супроць вайны, за абарону СССР.

Расьце організацыйны і палітычны ўплыў брацкіх компартый. За

год (з часу XI пленуму ІККІ) лік членаў Комуністычнага Інтэрнацыяналу падвоіўся.

На выбарах у рэйхстаг 31 ліпеня 1932 г. германская комуністычная партыя ва ўмовах жорсткага цкаваньня і тэрору з боку буржуазіі, социял-дэмократаў і фашыстаў атрымала $5^1/_2$ млн. галасоў, паказала сябе, як кіраўнік шырокіх мас рэвалюцыйнага германскага пролетарыяту. Пад кіраўніцтвам КПГ 31 ліпеня трэцяя частка германскага прамысловага пролетарыяту галасавала супроць фашысцкага тэрору і капіталізму, за соцыялістычную савецкую Германію, за рэвалюцыйны выхад з крызісу.

У Кітаі ⅛ тэрыторыі з 80 млн. насельніцтвам знаходзіцца ў руках кітайскіх саветаў, якія маюць 200-тысячную рэгулярную Чырвоную армію. Адначасова з рэвалюцыйным савецкім рухам у аграрных раёнах Кітаю адбываецца значны ўздым рабочага руху ў буйных прамысловых цэнтрах (Шанхай, Ханькоў, Цяньзінь і інш.).

Рабочыя масы ўсё больш і больш вызваляюцца з-пад уплыву соцыялфашызму і становяцца пад сьцяг

Комінтэрну. Разьвіваецца і абвастраецца рэволюцыйны сялянскі рух, узмацняецца незадавальненьне дробнабуржуазных мас гораду.

Расьце рэволюцыйны рух і ўплыў компартый і сярод салдат армій капіталістычных краін.

Ня гледзячы на выключна жорсткія рэпрэсіі з боку буржуазіі, усё больш частымі робяцца выступленьні салдат пад лёзунгамі солідарнасьці з Чырвонай арміяй і з рэволюцыйным пролетарыятам сваёй краіны. Асабліва характарнымі зьяўляюцца выступленьні салдат у Францыі, Польшчы і Бэльгіі.

Паўстаньне ангілйскіх маракоў у Інвэргардоне, паўстаньне чылійскіх маракоў, братаньне бэльгійскіх салдат з бастуючымі гарнякамі, — усё гэта сьведчыць аб умацаваньні адзінага пролетарскага фронту супроць імпэрыялізму ў абарону Савецкага саюзу.

Жэнэўская конфэрэнцыя яшчэ раз паказала, што небясьпека вайны робіцца ўсё больш і больш непасрэднай і што адзіная сіла, якая можа перашкодзіць узьнікненьню новай бойні — гэта рэволюцыйны пролетарыят, а адзіны сродак

ДЛЯ ЗАЎВАГ

скончыць на заўсёды з войнамі — гэта пролетарская рэволюцыя.



Вялізарнейшыя перамогі соцыялізму натхняюць сусьветны пролетарыят у яго барацьбе, уліваюць бадзёрасьць і веру ў свае сілы і ўпэўненасьць у бліжэйшай перамозе пролетарскай рэволюцыі.

Мацнейшым фактарам барацьбы супроць новых войн, і нападу на СССР зьяўляецца цьвёрда праводзімая Савецкім саюзам політыка міру, выкрыцьцё перад шырокімі масамі працоўных ваенных замыслаў і прыгатаваньняў імпэрыялістаў, пасьпяховае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, умацаваньне абароназдольнасьці нашай краіны, павышэньне баявой магутнасьці рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, якая ня раз давала жорсткі і руйнуючы адпор усякім інтэрвэнтам, якія рабілі спробы парушыць граніцы Савецкага саюзу.

### Узмацненьне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва—галоўная ўмова ўмацаваньня абароназдольнасьці СССР

Вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва павысілі і

павышаюць абароназдольнасьць СССР і баяздольнасьць Чырвонай арміі. Індустрыялізацыя і колектывізацыя народнай гаспадаркі зьмяняюць матэрыяльна-організацыйныя асновы Чырвонай арміі і зьяўляюцца цьвёрдым фундамантам абароназдольнасьці СССР і баяздольнасьці Чырвонай арміі, забясьпечваючы снабжэньне зброяй, абмундзіраваньнем і харчамі.

Посьпехі прамысловасьці даваляюць Чырвонай арміі мець высокую баявую тэхніку. Рост рабочай клясы на аснове росту нашай прамысловасьці павялічвае рабочую праслойку сярод асабовага складу Чырвонай арміі, тым самым узмацняецца пролетарскі ўплыў у Чырвонай арміі, умацоўваецца яе баяздольнасьць.

Колгасьнік стаў моцнай апорай савецкай улады ў вёсцы.

Саўгасы, колгасы, МТС перавыхоўваюць селяніна, былога аднаасобніка ў політычна разьвітога, сьвядомага барацьбіта за соцыялізм. У антысавецкай вайне сусьветны імпэрыялізм сустрэне згуртаваны фронт пролетарыяту і працоўнага

ДЛЯ ЗАЎВАГ

сялянства. Ліквідацыя агента і саюзьніка сусьветнага імпэрыялізму ўнутры нашай краіны — кулацтва — таксама ўзмацняе абароназдольнасьць нашай краіны.

Усякае паслабленьне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва вядзе да падрыву абароназдольнасьці СССР і баявой магутнасьці Чырвонай арміі.

«Затрымаць тэмпы — гэта значыць адстаць. А адсталых б'юць. Але мы ня хочам апынуцца бітымі... Але калі гэтага ня хочаце, вы павінны ў найкарацейшы тэрмін ліквідаваць адсталасьць соцыялістычнай бацькаўшчыны і разьвіць сапраўдныя бальшавіцкія тэмпы ў справе разьвіцьця яе гаспадаркі» (Сталін).

Пасьпяховае выкананьне задач, пастаўленых XVII партконфэрэнцыяй ў галіне завяршэньня тэхнічнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі, організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і завяршэньня колектывізацыі, — яшчэ больш умацуе нашу народную гаспадарку і абароназдольнасьць нашай краіны.

## Чырвоная армія—зброя дыктатуры пролетарыяту

ДЛЯ ЗАЎВАГ

VI зьезд саветаў нядвусэнсова ўказаў імпэрыялістычным інтэрвэнтам, што «ўзброены напад на СССР азначае цяпер галоўную небясьпеку для тых, хто захоча парушыць мір і напасьці на Савецкі саюз».

Социялістычнае будаўніцтва СССР абараняе Чырвоная рабоча-сялянская армія, армія пролетарскай дыктатуры. Пятнаццаць год Чырвоная армія забясьпечвае існаваньне СССР.

Чырвоная армія зьяўляецца зброяй пролетарскай дзяржавы, першай і адзінай у сьвеце бацькаўшчыны працоўных.

Яна заклікана забясьпечыць і адстаяць ад усіх замахаў ворагаў соцыялізму і пролетарскай рэволюцыі незалежнасьць СССР і агарадзіць соцыялістычнае будаўніцтва, мірную працу і свабоду рабочых і сялян.

Абараняючы СССР, яна самым фактам свайго існаваньня садзейнічае барацьбе прыгнечаных працоўных мас усяго сьвету за іх вызваленьне.

«Чырвоная армія моцна сваёй клясавай сьвядомасьцю, шчырай адданасьцю справе комунізму, сувязьзю і падтрыманьнем шырокіх рабоча-сялянскіх мас, пастаяннай баявой гатоўнасьці выкарыстаць сваю зброю для зруйнавальнага разгрому ўзброеных сіл ворагаў Савецкага саюзу» (З палявога статуту РСЧА).

Чырвоная армія ствcaралася, расла і мацнела, «як новая організацыя новай клясы» (Ленін). Зьвергнуўшы буржуазію, зьнішчыўшы дзяржаўную машыну, пролетарыят зьнішчыў і старую армію, якая не магла служыць мэтам пролетарскай рэволюцыі.

«Дыктатура пролетарыяту ёсьць зброя пролетарскай рэволюцыі, яе орган, яе важнейшы апорны пункт, выкліканы да жыцьця для таго, каб, па-першае, падавіць супраціўленьне зьвергнутых эксплёататараў і замацаваць свае дасягненьні, па-другое, давесьці да канца пролетарскую рэволюцыю, давесьці рэволюцыю да поўнай перамогі соцыялізму» (Сталін).

Гэтым мэтам, гэтым задачам і заклікана служыць Чырвоная ар-

мія, якая пабудавана зусім інакш, чым старая армія, і па ўсёй сваёй клясавай прыродзе, і па вайсковай дысцыпліне. Чырвоная армія ў сваёй пабудове выражае вышэйшы прынцып дыктатуры пролетарыяту — саюз рабочай клясы з працоўнымі масамі сялянства. Чырвоная армія кладзе ў сваю аснову соцыялістычнае выхаваньне байцоў і інтэрнацыянальную сувязь з сусьветным пролетарыятам, якія ўмацоўваюцца на аснове клясавай згуртаванасьці, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Толькі таму Чырвоная армія ў гады грамадзянскай вайны атрымала перамогу над праціўнікам— белагвардзейскімі арміямі, якія ўзначальваліся генэраламі, падтрымліваліся тэхнічнымі сродкамі, грашыма, жывымі сіламі і маральна ўсім капіталістычным сьветам.

**У гады мірнай перадышкі Чырвоная армія сваёй маральнай устойлівасьцю, сваім адзінствам і згуртаванасьцю вакол партыі, сваёй самаадданай адвагай і воляй, аснаванай на глыбокім веданьні ваеннай справы, аўладаньні ваеннай тэхнікай, зьяўляецца апорай міру, па-**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**раліжуе сваёй магутнасьцю ўсе спробы ўзброенага нападу інтэрвэнтаў на СССР.**

Чырвоная армія, ахоўваючы вялікае будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне, тым самым змагаецца за інтарэсы сусьветнага пралетарыяту, адстойваючы адзіную ў сьвеце пролетарскую дзяржаву—СССР, соцыялістычную бацькаўшчыну працоўных усяго сьвету.



### Кіраўніцтва партыі і сувязь з працоўнымі масамі СССР і міжнародным пролетарыятам—аснова высокай баяздольнасьці Чырвонай арміі

Сіла Чырвонай арміі заключаецца ў тым, што яна знаходзіцца пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Чырвоная армія ў сваёй організацыі, у сваім кіраўніцтве пабудавана так, як і ўся наша пролетарская дзяржава. Чырвоная армія зьяўляецца часткай дзяржаўнага апарату, а комуністычная партыя—правадыром, організатарам і будаўніком Чырвонай арміі.

«Бяз партыі, жалезнай і загартаванай у барацьбе, бяз партыі, якая карыстаецца давер'ем усяго чэсна-

га ў данай клясе, бяз партыі, якая ўмее сачыць за настроем мас і ўплываць на яе,—весьці пасьяхова такую барацьбу немагчыма» (Ленін).

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі організавалася Чырвоная армія і былі атрыманы перамогі над ворагамі працоўных у цяжкія гады грамадзянскай вайны. Трыста тысяч членаў УсеКП(б) (каля 60 проц. усяго складу) змагаліся ў радох РСЧА ў гады абвостранай барацьбы. 50 тысяч лепшых комуністаў загінула на палёх грамадзянскіх франтоў, паказваючы прыклад героізму.

Пад кіраўніцтвам партыі ішло ўсё будаўніцтва Чырвонай арміі, організацыя і падрыхтоўка начальствуючага складу. Пад кіраўніцтвам партыі і цяпер Чырвоная армія ўмацоўвае сваю баяздольнасьць.

Кіруючая роля партыі ў арміі ўвесь час узмацняецца. Палову складу Чырвонай арміі складаюць комуністы і комсамольцы.

Уся наша Чырвоная армія моцна згуртавана вакол комуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК, на чале



ДЛЯ ЗАЎВАГ

з т. Сталіным. Пад кіраўніцтвам парторганізацыі ўся чырвонаармейская маса рашуча змагаецца за генэральную лінію партыі і цьвёрда праводзіць яе ў жыцьцё.

Прыкладнасьць комуніста і ўсяго начскладу набывае важнейшае і рашаючае значэньне.

«Комуністы і комсамольцы, якія не зьяўляюцца прыкладам узорнай вайсковай дысцыпліны, ня варты званьня членаў партыі і ленінскага комсамолу».

Сіла нашай Чырвонай арміі заключаецца ў тым, што яна зьяўляецца неадрыўнай часткай рабочай клясы і працоўных СССР. Чырвоная армія тысячамі нітак зьвязана з масамі, якія яна прадстаўляе.

«Нідзе ў сьвеце няма такіх клапатлівых адносін з боку народу да арміі, як у нас. У нас армію любяць, яе паважаюць, аб ёй клапоцяцца» (Сталін).

Чырвоная армія прымае актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, штогод дае гораду і вёсцы лепшых організатараў, энтузіястаў соцыялістычных форм працы, ударнікаў, якія растлумачваюць у масах ідэі партыі, організатараў

чырвоных куткоў, ячэек Асоавіяхіму, членаў сельсаветаў і актывістаў ў соцыялістычнай будоўлі з ліку дэмобілізаваных чырвонаармейцаў.

Чырвоная армія моцна таксама яднаньнем народаў усіх нацыянальнасьцяй на аснове ленінскай нацыянальнай політыкі партыі. Культурнае і політычнае разьвіцьцё ўсіх нацыянальнасьцяй у Чырвонай арміі ёсьць тая сіла, якая згуртоўвае вакол Чырвонай арміі, вакол саветаў усе прыгнечаныя народы за межамі Саюзу. Чырвоная армія зьвязана з усімі працоўнымі сьвету. Яна—іх надзея вызваленьня ад сусьветнага капіталізму. Такой моцнай сувязі паміж арміяй і працоўнымі няма і ня можа быць ні ў якой іншай арміі.

Чырвоная армія моцна высокай клясавай сьвядомасьцю, адзінствам байцоў і начскладу.

«Чырвоная армія непераможна, бо яна аб'яднала мільёны працоўных сялян з рабочымі, якія навучыліся цяпер змагацца, навучыліся таварыскай дысцыпліне, ня падаюць духам, загартоўваюцца пасьля невялікіх паражэньняў» (Ленін).

Усьвядомленьне байцом сваіх клясавых інтарэсаў, за якія ён змагаецца ў РСЧА, прыводзіць яго да актыўных і добрасумленных адносін да баявой падрыхтоўкі, да самаавяраваньня, да выносьлівасьці і героізму.

Клясавае адзінства, поўнае аднадушша ў пытаньнях ваеннага будаўніцтва начальствуючага і чырвонаармейскага складу, высокае сазнаньне сваіх клясавых інтарэсаў стваралі і ствараюць моцны палітыка-маральны стан Чырвонай арміі, якая заўсёды гатова на абарону Савецкага саюзу, на абарону сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

«Узброеныя сілы нашага Саюзу зьяўляюцца ў арганізацыйных, баявых і палітычных адносінах зусім надзейнай узброенай апорай дыктатуры пролетарыяту» (Варашылаў).

**Кожны баец РСЧА і працоўны павінен умець уладаць новай ваеннай тэхнікай**

На высокай клясавай сьвядомасьці байцоў грунтуецца і пасьпя-

ховае прымяненьне ваеннай тэхнікі ў Чырвонай арміі.

Капіталісты, якія ўладаюць высокай ваеннай тэхнікай і вялізарнымі вытворчымі магчымасьцямі, у той-жа час ня могуць не непакоіцца ў сувязі з узбраеньнем арміі тэхнікай, бо іх арміі маюць клясавыя інтарэсы, супроцьлеглыя інтарэсам капіталістаў. Капіталістычная армія хоць яна ўзброена высокай тэхнікай, ня можа зьяўляцца надзейнай сілай для капіталістычных дзяржаў. Капіталісты з боязьню думаюць аб моманце, калі ашуканыя імі салдаты, узброеныя новай тэхнікай, павернуць гэту тэхніку супроць капіталізму. Адсюль— спробы ствараць арміі фашысцкія, які ясkладаюцца з буржуазіі. Але такія арміі ня могуць быць масавымі, а машыны ваяваць самі ня стануць, імі павінен кіраваць чалавек.

У Чырвонай арміі чалавек і машына—адзінства, адзін аднаго дапаўняюць і ўзмацняюць. Тэхніка, памножаная на высокую клясавую сьвядомасьць і высокую баявую падрыхтоўку кожнага байца, узмац-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

няе баявую магутнасьць Чырвонай арміі.



Тэхніка РСЧА нікольki ня ўступае тэхніцы армій нашых праціўнікаў. Мы маем свае танкі, бранявікі, хімічныя сродкі, аэропляны, радыё і т. д. Мы пасьпяхова вырашаем пытаньні падрыхтоўкі тэхнічных кадраў у Чырвонай арміі.

Але мала атрымаць тэхніку. Ёю трэба аўладаць. Аўладаньне тэхнікай зьяўляецца зараз рашаючай задачай у баявой падрыхтоўцы Чырвонай арміі.

«Ад арміі, больш, чым калі-б то ні было неабходна патрабаваць аўладаньня тэхнікай, навучыцца кіраваць ёй, паднімаць вышэй тэхнічную культуру байца, камандзіра і палітычнага работніка. У нас у арміі надзвычай добры чалавечы матэрыял, адданы да канца пралетарскай рэвалюцыі, і яму ў рукі трэба даць больш тэхнікі, тэхнічных сродкаў барацьбы, пасадзіць яго на аўтомобіль, самалёт і вучыць, і вучыць, і вучыць дасканала аўладаць тэхнікай»,

(Гамарнік).

## Клясавы склад Чырвонай арміі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Па сваёй клясавай прыродзе Чырвоная армія зьяўляецца арміяй пролетарскай дыктатуры. Гэтага рабочая кляса ні перад кім ня ўтойвае, а, наадварот, падкрэсьлівае.

У Чырвонай арміі могуць служыць толькі рабочыя і працоўныя. У рады Чырвонай арміі зусім не дапускаюцца клясава-чужыя элемэнты: кулакі, нэпманы, духавенства, элемэнты, якія моральна разлажыліся, лішэнцы. Рабочая кляса можа даверыць зброю і абарону СССР толькі адданым справе соцыялістычнага будаўніцтва байцом.

У сучасны момант у складзе байцоў Чырвонай арміі ёсьць 35,5 % рабочых і батракоў. Больш 35% складу Чырвонай арміі складаюць комуністы і комсамольцы.

У складзе камандзіраў РСЧА больш за 50 проц. складаюць комуністы. У 1931 г. у партыю ўступіла тры тысячы сярэдніх, старэйшых і вышэйшых камандзіраў і да 20 тыс. чалавек малодшага камскладу. Сярод камскладу ўдзельні-

кі грамадзянскай вайны складаюць 82,7 проц.

Такі твар Чырвонай арміі, яс клясавая сутнасьць.

Прызыўнік, прышоўшы ў Чырвоную армію, сустрэне ў ёй цёплы прыём, таварыскія адносіны з боку байцоў і камандзіра—політычнага выхавальніка, які прад'яўляе высокія патрабаваньні па службе, што неабходна для магутнасьці арміі.

## Рэволюцыйная дысцыпліна Чырвонай арміі

Сваю ўнутраную ўстойлівасьць і організацыйную сувязь Чырвоная армія ажыцьцяўляе праз камандны і політычны склад на аснове высокай рэволюцыйнай вайсковай дысцыпліны.

Ні адна армія ня можа існаваць без дысцыпліны, але ў кожнай арміі дысцыпліна, таксама, як і сама армія,—клясавая. Высокая вайсковая рэволюцыйная дысцыпліна можа будавацца на клясавай сьвядомасьці мас.

У царскай арміі дысцыпліна прадстаўляла сабой паднячаленьне прыгнечаных кляс прыгнятальні-

кам. Яна (дысцыпліна) была палачнай, дапускаўся мардабой, дзеншчыцтва і ўсякія дзеяньні, якія прыніжалі салдата перад афіцэрскай зграяй. Падначаленьне салдата з рабочых і сялян афіцэру-памешчыку, капіталісту, было падначаленьнем рабочай клясы і сялянства памешчыкам і капіталістам.

Дысцыпліна ў Чырвонай арміі аснавана на ўсьведамленьні кожным байцом свайго абавязку перад соцыялістычнай бацькаўшчынай, на разуменьні сваіх задач. Баец Чырвонай арміі сьвядома выконвае патрабаваньні камандзіра Чырвонай арміі, пастаўленага савецкай уладай. Поўная адсутнасьць клясавага прымусу, адзінства інтарэсаў паміж камандзірамі і радавымі байцамі, высокая прыкладнасьць комуністаў, комсамольцаў, і ўдарнікаў — забясьпечваюць Чырвонай арміі жалезную рэволюцыйную вайсковую дысцыпліну.

Цяпер, у пэрыод рэконструкцыі Чырвонай арміі, калі перад ёю стаіць задача асвоіць новую тэхніку, якой аснашчае яе наша соцыялістычная прамысловасьць, вайсковая дысцыпліна, яе ўмацаваньне

набываюць выключнае значэньне для баявой вывучкі.

«Калі падумаць аб тым, што ляжала, нарэшце,, у глыбокай аснове таго, што такое гістарычнае цуда адбылося, што слабая, адсталая краіна перамагла мацнейшыя краіны ў сьвеце, дык мы бачым, што гэта—цэнтралізацыя, дысцыпліна і нячуванае самаафяраваньне» (Ленін).

Фабрыкі, заводы, саўгасы і калгасы, падтрымліваючы сувязь з Чырвонай арміяй, павінны сачыць за тым, як дысцыплінаваны, наколькі прыкладны іх таварышы, якія знаходзяцца ў Чырвонай арміі, аказваючы дапамогу ў арганізаваным выхаваньні байцоў у духу высокай рэвалюцыйнай вайсковай дысцыплінай.

«Хто не дапамагае цалкам і самааддана Чырвонай арміі, не падтрымлівае з усіх сіл парадку і дысцыпліны ў ёй, той здраднік» (Ленін).

**Чырвоная армія—палітычная школа**

Чырвонаармеец у Чырвонай арміі выхоўваецца, як клясава-сьвядомы грамадзянін, высокакваліфі-

каваны ў вайсковых адносінах і ўладаючы ў дасканаласьці ваеннай тэхнікай, як барацьбіт за савецкую ўладу, арганізатар і перадавік на заводзе, прадпрыемстве, актыўны работнік па социялістычнай перабудове вёскі, барацьбіт за колектывізацыю і на яе аснове ліквідацыю кулацтва як клясы. Навучаючыся ваеннай справе ў Чырвонай арміі, баец адначасова прымае ўдзел ва ўсім соцыялістычным будаўніцтве нашай краіны. Напрыклад, байцы РСЧА, іх сем'і служаць прыкладам у выкананьні ўсіх абавязацельстваў і ў правядзеньні ўсіх мерапрыемстваў савецкай улады (збор падаткаў, падпіска на пазыкі, загатоўкі).

Чырвонаармейцы, варочаючыся з арміі, становяцца перадавымі арганізатарамі на заводах, у саветах, колгасах, грамадзкіх організацыях, як вытрыманыя бальшавікі, якія пасьлядоўна праводзяць генэральную лінію партыі.

У Чырвонай арміі выхоўваюцца ў байца інтэрнацыянальныя пачуцьці, бо Чырвоная армія ёсьць найбольш поўнае выражэньне яднаньня працоўных усіх нацыяналь-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

насьцяй у адзіны працоўны колектыў, у адзіную сям'ю для барацьбы за дыктатуру пролетарыяту, за сусьветную рэволюцыю.

У Чырвонай арміі могуць служыць працоўныя ўсіх нацыянальнасьцяй. Чырвоная армія абараняе інтарэсы ўсіх краін.

«Сіла нашай Чырвонай арміі заключаецца ў тым, што яна выхоўвае байцоў з першага дня свайго існаваньня ў духу паважаньня да другіх народаў, у духу паважаньня да рабочых другіх краін, у духу захаваньня і ўмацаваньня міру паміж краінамі» (Сталін).

## Высокая палітычная сьвядомасьць, парадак і дысцыпліна на прызыўных пунктах

Прызыўнік апошняга заключнага году першай пяцігодкі, ударнік заводу і соцыялістычных палёў, сваёй організаванасьцю і высокай палітычнай сьвядомасьцю абавязан садзейнічаць найлепшай організацыі і правядзеньню прызыву.

Парадак і дысцыпліна на прызыўных пунктах, суровы адпор нават малым праяўленьням «рэкрут-

чыны» старой царскай арміі, якія могуць выявіцца ў паасобных прызыўнікоў.

Шырокая масава-палітычная агітацыя, накіраваная на растлумачэньне мерапрыемстваў партыі, савецкай улады і міжнародных падзей—абавязак ня толькі партыйцаў і комсамольцаў, але і ўсіх ударнікаў.

Прызыў—важнейшая палітычная кампанія. Наша задача—правесьці яго па-ўдарнаму.

## Організаваць провады ў Чырвоную армію

У бліжэйшы час увага партыйных, комсамольскіх і грамадзкіх організацый павінна пераключыцца на організацыю провадаў прызыўнікоў, прынятых у Чырвоную армію.

Дзень провадаў павінен стаць «днём абароны». Чырвоныя абозы са збожжам, ільном, самаабавязацельствы рабочых па выкананьні прамфінпляну, самаабавязацельствы прызыўнікоў быць ударнікамі ў вучобе—усё гэта павінна напоўніць «провады». Шэфства паасоб-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ных прадпрыемстваў над каманда-мі прызыўнікоў, таварыская спайка паміж рабочымі будучымі байца-мі—будзе мець вялікае значэньне.

## Чырвонай арміі патрэбен моцны тыл

Усякая вайна патрабуе моцнага тылу ў арміі. Умацоўваць тыл Чырвонай арміі—значыць, па-першае, умацоўваць нашу соцыялістычную гаспадарку, сваячасова выконваць па колькасьці і якасьці прамфінплян, сваячасова праводзіць сельскагаспадарчыя кампаніі, ўмацоўваць колгасы.

Па-другое, умацоўваць грамадзкія организацыі і ў першую чаргу Асоавіяхім, Аўтодор. Па-трэцяе, умацоўваць штодзенную сувязь працоўных з Чырвонай арміяй, умацоўваць рабочае шэфства над часьцямі Чырвонай арміі і флёту.

* *

Капіталістычны сьвет—у ціскох крызісу. У паласе нябывалых эканомічных і соцыялістычных патрасеньняў.

СССР—на крутым уздыме, перад ім вялікшыя пэрспэктывы. Кожная новая перамога працоўных СССР паскарае пасьпяваньне рэволюцыйнага крызісу ва ўсім сьвеце... Кожная новая перамога працоўных СССР набліжае нас да сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

Пераможна будуючы соцыялізм, мы памятаем, што знаходзімся ў капіталістычным абкружэньні і што небясьпека інтэрвэнцыі супроць СССР—рэальная небясьпека.

Тым з большай энэргіяй будзем разьвіваць нашу народную гаспадарку, умацоўваць баяздольнасьць нашай краіны, баявую магутнасьць Чырвонай арміі, будзем гатовы ў любы момант даць рашучы адпор тым, хто паспрабуе напасьці на СССР, зрабіць замах на вашы заваяваньні ў баёх за соцыялізм.

## Асоавіяхім організацыі—баявы рэзэрв Чырвонай арміі

Асоавіяхім—баявы рэзэрв Чырвонай арміі. Работа гэтай організацыі мае вялікае значэньне для абароны нашай краіны.

Правадзімы цяпер пераучот

члена ў гэтай організацыі мае вялікую політычную задачу—замацаваць організацыйна і практычна тыя $1/2$ мільёна членаў гэтай организацыі.

У гэту кампанію павінен быць перагледжаны ўвесь склад гэтага таварыства, з яго радоў павінны быць выкінуты ўсе клясава-варожыя элемэнты. Новыя тысячы рабочых, колгасьнікаў павінны ў выніку кампаніі прысьці ў таварыства. У некалькі разоў павінна павялічыцца колькасьць жанчын у гэтай организацыі.

Заслаўльскі, Старобінскі раёны могуць быць прыкладам правядзеньня такой політыкі. Заслаўльская организацыя вырасла на 1139 чал., Старобінская на 360 чал.

Прыкладам, як ня трэба праводзіць кампанію, зьяўляецца Дрысенскі раён. Там ня была мобілізавана грамадзкасьць і ў выніку атрымаўся значны адсеў.

### Па-бальшавіцку правесьці Усесаюзны агляд работы нізавых ячэек Асоавіяхіму

«Нізавая ячэйка таварыства Асоавіяхіму зьяўляецца важней-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

шым і рашаючым зьвяном усёй работы Асоавіяхіму, а таксама і асноўным організатарам і праваднікоем усіх масавых мерапрыемстваў таварыства па абароннай рабоце сярод рабочых, колгасьнікаў і працоўных.

Хутчэйшае і пасьпяховае ажыцьцяўленьне на справе гэтай політычнай сур'ёзьнейшай і адказьнейшай задачы будзе сапраўды бальшавіцкім адказам на пастанову ЦК УсеКП(б) аб умацаваньні Асоавіяхімаўскай работы» (з адозвы ЦК Асоавіяхіму).

### Прысьці падрыхтаванымі да вайскова-навучальнага году

1 лістапада пачынаецца вайскова-навучальны год. Трэба ахапіць формамі асоавіяхімаўскай вучобы ўсю організацыю, увесь комсамол. Абсталяваньне вучэбных пунктаў, набыцьцё падручнікаў, матэрыяльнай часткі—павінна стаць справай кожнага Асоавіяхімаўца, кожнага комсамольца. Зараз-жа паклапаціцца аб матэрыяльна-бытавых умовах тых, якія павінны займацца—адпаведны выбар часу за-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

няткаў, мейсца, забесьпячэньне магчымасьці атрымаць вячэру на прадпрыемстве ў дні заняткаў.

Шырокім разгортваньнем індывідуальнай і групавой агітацыі—папулярызацыяй задач абароны краіны, мы павінны забясьпечыць нормальны ход вайсковага навучаньня.

Задача агляду—выкарыстаць і перанесьці вопыт лепшых нізавых ячэек таварыства для рашучага ажыўленьня і павышэньня якасьці работы ячэек і іх далейшай барацьбы за ператварэньне заводаў, МТС, саўгасаў і колгасаў у крэпасьці абароны. Агляд павінен дапамагчы сапраўднай перабудове ячэек Асоавіяхіму, на аснове пастаноў III пленуму ЦС, і садзейнічаць: шырокаму разгортваньню масавай вайсковай работы ў цэху, брыгадзе, на палявых работах і т. д. узмацненьню масавай вайскова-палітычнай работы сярод членаў Асовіяхіму—рабочых, колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў—па пытаньнях ваеннай небясьпекі і ўмацаваньня абароназдольнасьці краіны; уцягненьню ў рады таварыства новых членаў і

ахопу іх практычнай работай у гуртках, камандах і т. д.

Агляд праводзіцца з 1 кастрычніка 1932 г. па 1 студзеня 1933 г.

У аглядзе прымаюць удзел усе нізавыя ячэйкі на прадпрыемствах, транспорце, МТС, у саўгасах, калгасах.

Агляд праводзіцца на лепшае выхаваньне наступных паказальнікаў:

1. Для вытворчых ячэек

1. **Удзел цэхавай ячэйкі ў барацьбе за завод-крэпасьць**—канкрэтнае выкананьне ўзятых абавязацельстваў, контроль за правядзеньнем іх у жыцьцё.

2. **Па масавай ваеннай рабоце**—вывучэньне і ауладаньне вінтоўкай, стралковая работа, ваенныя паходы, лягзборы, прагулкі, экскурсіі, зьберажэньне зброі, сувязь з вучэбнымі пунктамі, контроль за наведваньнем рабочых свайго цэху заняткаў вучэбнага пункту і барацьба за якасьць вучобы. Работа з начскладам запасу, дэмобілізаванымі чырвонаармейцамі, былымі чырвонагвардзейцамі і чырвонымі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

партызанамі і выкарыстаньне іх на асоавіяхімаўскай рабоце. Сувязь з падшэфнай часткай, удзел у прызыве 1910 г. Організацыя камандзірскай вучобы. Ваенізацыя фізкультработы.

3. **Работа па СПА**—аўладаньне супроцьгазам, газаакурваньне, удзел у паветраных трывогах і распаўсюджваньне супроцьгазаў.

4. **Удзел у вытворчым жыцьці**—работа ўдарных брыгад імя Асоавіяхіму, барацьба за выкананьне вытворчых заданьняў і ўвязка гэтай работы з абарончымі задачамі.

5. **Масавая ваенна-палітычная работа**—растлумачальная работа па пытаньнях росту ваеннай небясьпекі і інтэрнацыянальнае выхаваньне, работа вайсковага кутка, распаўсюджваньне вайсковай літаратуры і асоавіяхімаўскага друку, абслугоўваньне абедзеных перапынкаў і начных зьмен.

6. **Упягненьне новых членаў**—барацьба за клясавую чыстату радоў і ўзмацненьне клясавай пільнасьці; вярбоўка новых членаў і афармленьне членства, ахоп іх практычнай работай у гуртках,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

камандах. Дакладны ўлік членаў ў ячэйцы.

7. **Выхоўваньне актыву**—выдзяленьне групорганаў, гутаршчыкаў, масавікоў у брыгадах і агрэгатах, правільнае разьмеркаваньне і праверка выкананьня нагрузак, інструктаж і кіраўніцтва работай нізавога актыву, замацаваньне яго за Асоавіяхімам, падрыхтоўка актыву ў ячэйцы і выкарыстаньне сконч ыўшых раённыя ці іншыя курсы.

8. **Умацаваньне фінансавай базы**—ліквідацыя запазычанасьці і акуратны збор членскіх узносаў, поўная рэалізацыя лётарэйных білетаў і сваячасовы разьлік па іх, правільнае выкарыстаньне прафсаюзных адлічэньняў.

9. **Сувязь з кіруючымі арганізацыямі**—штодзенная сувязь з партыйнымі, профсаюзнымі і камсамольскімі арганізацыямі, ажыцьцяўленьне адзінага пляну вайсковай работы.

## II. Для ячэек МТС, саўгасаў і колгасаў

1. **Барацьба ячэек за ператварэньне саўгасаў, МТС і колгасаў ў крэпасьці абароны.**



ДЛЯ ЗАЎВАГ

2. **Масавая вайсковая работа**— работа вайсковых і стралковых гурткоў; непасрэдны ўдзел у рабоце перасовачных вучпунктаў, работа з па-за вайсковымі і дапрызыўнікамі, удзел у міжборавай рабоце з пераменьнікамі, выкарыстаньне дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, комскладу запасу, былых чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызан; выкарыстаньне для ваеннай вучобы трактарнага парку, конскага складу і ўкараненьне ваянізацыі ў быт і вытворчасьць (ваенізацыя інтэрнатаў рабочых МТС і саўгасаў, пераняссеньне вопыту догляду каня ў арміі ва ўмовах колгасу, саўгасу і МТС). Масавая вайсковая прапаганда на палявых работах, выхады ў поле, тактычныя гульні, ваенізацыя фізкультработы.

3. **Масавая выхаваўчая работа**— растлумачальная работа па пытаньнях росту ваеннай небясьпекі і інтэрнацыянальнага выхаваньня, работа вайсковых куткоў у хатах-чытальнях, клюбах, удзел у рабоце дому абароны, распаўсюджваньне літаратуры па пытаньнях асоавіяхімаўскай работы, жыцьця і вучобы

Чырвонай арміі, выкарыстаньне радыё.

4. **Работа сярод аднаасобнікаў**—вярбоўка ў члены, прыцягненьне да практычнай работы, масавая вайскова-політычная работа з імі.

5. **Удзел у гаспадарча-політычных кампаніях**—засеў, уборка і рэалізацыя ўраджаю «з 1 **га** абароны», удзел у пасеўных і ўборачных кампаніях, ахова грамадзкай маемасьці, барацьба з раскрадваньнямі, вярбоўка ў вайсковыя школы. Барацьба за зьберажэньне каня і стварэньне фонду каня і фуражу для РСЧА.

6. **Уцягненьне новых членаў**—барацьба за клясавую чыстату радоў і ўзмацненьне клясавай пільнасьці; ахоп членствам рабочых МТС, саўгасу і колгасаў, афармленьне членства (выдача членскага білету, наклейка марак аб уплаце членскіх узносаў). Уцягненьне членаў Асоавіяхіму ў практычную работу ячэйкі і гурткоў. Дакладны ўлік членаў Асоавіяхіму.

7. **Работа з актывам.** Выяўленьне і падрыхтоўка актыву, правільнае выкарыстаньне актыву, падрыхтаванага на асоавіяхімаўскіх курсах,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

інструктаж і штодзеннае кіраўніцтва работай зборшчыкаў членскіх узносаў, гутаршчыкоў.

8. **Умацаваньне фінансавай базы**—ліквідацыя запазычанасьці і акуратны збор членскіх узносаў, поўная рэалізацыя лётарэйных білетаў і своечасовы разьлік па іх, правільнае выдаткаваньне ячэйкавых сродкаў.

---

Стар.



---

Заказ № 2408. 5.000 экз. Уп. Галоўлітбелу № 1007

Друкарня імя Сталіна

